# Серыя “Промні ліхтарыка”



Творчасць вучняў
**4 “А” класа** - удзельнікаў **гуртка**
**“Ліхтарык”**

Кіраўнік **Грынь Р.В.**



# *Байкі*



*Зімой, калі адпачывае прырода,*
*ў людзей таксама наступае час, калі можна ўдзяліць увагу хатнім справам, рукадзеллю, чытанню кніг.*

*Менавіта доўгімі зімовымі вечарамі здаўна складаліся казкі, байкі, вершы, вяліся павучальныя цікавыя размовы.*

***Байкі** - кароткія павучальныя гісторыі, з цікавым сюжэтам і абавязковым вынікам - мараллю - вельмі дарэчы для такіх зносін: яны вучаць жыццёвай мудрасці.*

*Аналізуючы байкі вядомых пісьменнікаў, мы самі паспрабавалі паразважаць над рознымі жыццёвымі здарэннямі і, карыстаючыся народнымі прыказкамі, падабраць да іх мараль.*



    

## Воўк на паляванні

Раз узімку воўк галодны
Выйшаў у лес на паляванне,
Бачыць: заяц ля бярозы,
А другі каля кургана.
- Паснедаю двума адразу! -
Узрадаваўся бедалага.
Воўк кінуўся за першым зайцам,
Потым за другім пабег.
Пакуль ганяўся за другім,
Першы збег.
А дзе ж другі? Ён знік таксама.
Нічым закончылася тое паляванне -
Застаўся воўк наш без снядання.

**Каб ведалі ваўкі прымаўкі народныя,**
**Дык не былі б галодныя.**



**Гайдук Надзея**



## Муха і Вавёрка

Жылі ў адным лесе Муха - легкадумная весялуха і Вавёрка - пухнатая шорстка.

Вавёрка заўсёды працавала, на зіму арэхі, грыбы збірала. А Муха-весялуха з яе толькі насміхался. Цэлымі днямі яна гуляла, пархала ды песні спявала.

А калі пахаладала, Вавёрка ў дупле схавалася. Запасы ўплятае - гора не знае. А наша легкадумная Весялуха паляцела хутчэй да людзей, каб у цёплым жытле абаснавацца ды й там падсілкавацца.

Толькі ў хату заляцела, адразу на стол села, каб адведаць медавухі. А тут - хлоп! І няма Мухі…

**Такім чынам, кожны знай: на чужое дабро не зарся - сваё набывай!**



**Зелянкевіч Іна**



## Працавіты конь

Быў у беднага чалавека працавіты конь. Разам яны працавалі, разам у беднасці гаравалі.

Але, дзякуючы стараннай працы, і з дапамогай удачы чалавек разбагацеў.

Удзячны гаспадар, памятаючы заслугі працавітага каня, не адрокся ад яго. Конь быў добра дагледжаны і стаў удвая сыцейшым.

**Нездарма ж кажуць: “Хто працуе, таму і шанцуе.”**



**Клімковіч Лізавета**



## Навагодняя ёлка

Адна ёлка вельмі марыла стаць навагодняй. Яна хацела, каб яе забралі з гэтага сумнага халоднага лесу, упрыгожылі бліскучымі шарамі, гірляндамі. Але выбіралі для навагодняга балю іншыя елкі, толькі не яе. Елачцы стала так крыўдна, што яна заплакала.

Убачыла гэта вавёрка, залезла на дуб, сазвала звяроў.

Сталі яны думаць, як ператварыць елачку ў навагоднюю прыгажуню. Дружна ўсе ўзяліся за справу. І птушкі дапамаглі. Сарокі з сваіх куфэркаў дасталі бліскучыя цацкі, якія збіралі на працягу многіх гадоў. Снегіры павесілі гронкі рабіны, розныя цацкі з сучкоў і пер'я. А Дзядуля Мароз пасерабрыў усё ўбранне бліскучым інеем. У лесе пачалося сапраўднае свята. Больш за ўсіх весялілася ёлачка.

Свята закончылася. Ёлка засталася ў лесе. Расце ды радуецца сонцу і свету.

А дзе яе "шчаслівыя" сяброўкі, якіх забралі на навагодні баль?..

**Не жадай таго, аб чым не ведаеш.**



**Юрчанка Паліна**



**Конь і асёл**

Ішоў Конь да ракі ды сустрэў Асла. Падышлі яны ўдвух да шырокага рва.Конь і кажа Аслу:

- Давай абыдзем роў.
- Ды я ўраз яго праскочу. Ну, будзь здароў!

Скокнуў рэзвы Асёл - трапіў прама ў роў.

- Ой, ратуйце мяне! - жалабна зароў.



Сказаў Конь Аслу:

**- Не трэба раней часу "гоп!" казаць,**
**Каб цябе потым не прыйшлося**
**ўсім сялом ратаваць.**



**Юрчанка Паліна**

   

## Воля даражэй

Аднойчы Сабака адправіўся ў лес разам з гаспадаром. Пакуль гаспадар нарыхтоўваў дровы, ён вырашыў пагуляць па лесе. Раптам на яго напаў Воўк.

- Не чапай мяне,- папрасіўся Сабака, - я дамоўлюся са сваім гаспадаром, каб ён узяў цябе да нас жыць. Будзеш кожны дзень накормлены.

Воўк падумаў і было ўжо згадзіўся, але неўзабаве ўбачыў, што ў Сабакі ўся шыя сцёртая да ран.Ён пацікавіўся, чаму так.

Сабака адказаў:

- Ведаеш, мой гаспадар, перш чым пакарміць, надзявае мне на шыю ланцуг.

- Прабач, браток, я лепш у лесе застануся, а ты жыві у свайго гаспадара з сытым страўнікам і з ланцугом на шыі, - сказаў Воўк ды толькі яго і бачылі.

**Бывае, што воля даражэй за хлеб**



**Чарнаускас Арцём**



## Спрэчка

Сустрэліся на паляне нейк звяры
Ды спрэчку пачалі:
Чыё дзіця найлепшае за ўсіх.
- Што за дзіцятка ў мяне, - хвалілася Вавёрка,-
Няма спрытней ні ў кога, ужо ж такое вёрткае.
- Маё па дрэвах хоць не скача, - Зайчыха кажа, -
Ды церпялівае, не плача і ласку ўсім акажа.
У спрэчку кінулась Ваўчыха:
- Знайшлі чым пахваліцца!
Маўчыце, калі няма чаго сказаць.
Маё дзіцятка ўмее паляваць,
Зараз няма ў бацькоў турботы,
Каб яму ежу здабываць!
Лісіца не змагла змаўчаць:
- Куды ўсім ім да маёй
Дачушкі - ліскі-прыгажуні.
Што за дзіця! А ўжо ж хітруха,
Каго захочыш, падмане, ты толькі слухай!
- Чаго сакочаце дарма, - уставіў слова Лось,
- **Колькі б спрачацца вам не давялось,**
**Усхваляючы дзяцей сваіх,**
**Ды кожнай матцы ўсё адно**
**Сваё дзіця найлепшае за ўсіх.**



**Гаспадарык Валерыя**



**Пяструн і Рабуха**

Індык Пяструн і курачка Рабуха жылі ў бабулі весела і бесклапотна. Бабуля штодня карміла, паіла іх, а яшчэ паспявала ў хаце і на агародзе ўсё зрабіць.

І вось аднойчы захварэла старая, цяжка захварэла. Занепакоіліся Пяструн і Рабуха. Пяструн усім гучна заявіў, што будзе сам усю працу рабіць. Але прыгрэўся на сонейку ды заснуў.

Тым часам Рабуха збегала ў лес, назбірала для бабулі лекавых траў, напаіла хворую травяным настоем. Потым знесла свежае яечка і пачаставала бабулю. Затым упарадкавала агарод, прынесла вады, прыбрала ў хаце .



Ад такой заботы бабуля хутка ачуняла і ўсім расказала, якая ў яе добрая курачка.

А пра індыка змаўчала.

**Якая справа, такая і слава!**



**Карачун Іван**



## Пра сяброўства

Зайцы Міцька і Моцька былі сябрамі.Разам скакалі, гулялі, забаўляліся. Яны дамовіліся заўсёды сябраваць і ва ўсім дапамагаць адно аднаму.

Аднойчы яны гулялі ў хованкі. Моцька схаваўся за куст, а Міцька пайшоў яго шукаць. Раптам, адкуль ні вазьміся, выскачыў Воўк і хацеў схапіць Міцьку. Перапужанае зайчаня кінулася наўцёк. Воўк за ім, ўжо ледзь-ледзь не дагоніць.

- Моцька! Дапамажы! - закрычаў Міцька.

Яны абое ведалі, што калі другі заяц выскачыць з-за куста, ён тым самым адцягне увагу Ваўка, і ў іх будзе магчымасць уцячы.

Але Моцька затаіўся і не стаў дапамагаць сябру. Насілу ўдалося Міцьку ўратавацца ад Ваўка.

На гэтым іх сяброўства закончылася.

**Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам.**



**Каламеец Валерыя**



## Заяц і Мядзведзь

Двое суседзяў Заяц і Мядзведзь былі гультаямі, нідзе не працавалі, пастаяннага заробку не мелі, перабіваліся чым Бог пашле.

Аднойчы летняй спёкай, калі ўсе лясныя лужы перасохлі, захацелася ім піць. Пайшлі ў мясцовую краму да прадаўца Ваўка і папрасілі мінеральнай вадзіцы. Воўк растлумачыў ім, што без грошай у краме нічога не набудзеш.

- А дзе іх узяць тыя грошы? - спытаў Мядзведзь.
- Працаваць трэба, каб грошы зарабіць, - адказаў Воўк, - вось мне якраз памочнік патрэбен.
- Не, працаваць - гэта не для мяне, - паскроб патыліцу Мядзведзь, - я лепш у цяньку паляжу.

А Заяц падумаў і згадзіўся.

Цэлы месяц не бачыліся суседзі, а калі сустрэліся, Заяц пахваліўся:

- 100 рублёў зарабіў, жыллё сабе абнавіў, пайду прыпасаў прыкуплю.
- А я адпачываў увесь гэты час. Не ведаю, што рабіць: як бярлог пачыніць, дзе ежу знайсці. Пайду паляжу, падумаю, - сказаў Мядзведзь.
- Ёсць такая прымаўка: **“хто працуе, той і мае”,** ты над ёй падумай, - параіў Заяц і паскакаў па сваіх справах.





**Панкавец Ксеня**



Што нам зіма прынесла?
Завеі снежныя, лёд, халады.
Сіноптыкі марозам пагражаюць.
Але нас гэта не пужае.
Прырода спіць, яна адпачывае.
Хай пачакаюць й нашы клопаты і справы,
Бо клічуць нас

# Зімовыя забавы






# Што мы робім зімой?

1. Лепім снегавіка



2. Гуляем у снежкі





3. Коўзаемся па лёдзе,
Катаемся на санках, на лыжах, на каньках





4. Не забываемся падкармліваць птушак



 

5. Рыхтуемся да сустрэчы Новага года:



упрыгожваем ёлку, рыхтуем падарункі, дапамагаем накрываць святочны стол, чакаем сустрэчы з Дзедам Марозам і Снягуркай

 

5. Калядуем







**Калі справы ўсе ўпарадку,**
**І з’явіўся вольны час,**
**то**

# Зімовыя загадкі

**Прапаноўваем для вас**





   

1. Калючая ды не сасна,
Прыгожая, але не кветка,
Мае колер травы, але яе не косяць.
На свята радасць у дом прыносіць.
2. Зіма абрусам дах засцілае,
Махры ўніз звісаюць.



3. Без ног, а ідзе.
4. Стаіць на вуліцы чалавек,
Ды кароткі яго век.
Прыйдзе вясна - ён растане.
5. Колькі белых балярынак,
Няма дзвюх аднолькавых.
У паветры кружацца.
На далонь адна упала
І растала.

  



6. Прыйшла пара да нас снежная,
Вясёлая, мяцежная.
У снежкі мы гуляем,
Новы год сустракаем.

7. Як завецца года пара,
Калі снежкі ляпіць пара?



8. Белы і пушысты,
Халодны, іскрысты
Засцяліў зямлю.



9.Дзеці па ім катаюцца,
У дзень марозны забаўляюцца.

10. Шта за дзед-чараўнік
На свята да дзяцей прыходзіць,
Падарункі ім прыносіць?





11. Каваль мароз яго куе,
Рознай моцы надае.
Бывае крохкі, як крышталь,
Бывае цвёрды, быццам сталь.



12. Летам у шафе стаяць,
А зімой па лёдзе катаюць,
Дзяцей забаўляюць.



13. Зімой вада мяняецца,
У што яна ператвараецца?

14. Чараўніца прыляцела,
На зямлю села.
Крылы раскрыла,
Усю зямлю накрыла.



15. Маленькая прыгажуня ззяе і смяецца,
У рукі не даецца.



16. Робіць ён і снег, і лёд,
І на вокнах стварае малюнкі,
На дарогах зробіць галалёд,
Павесіць на дрэвы карункі.

17. З неба зляцела,
Усю зямлю адзела.

18. На вокнах узоры:
Лясы, лугі і азёры.



19. У бярлогу толькі засынае,
Адразу лапу сасаць пачынае.



20. Шэры злодзей па лесе гуляе,
Каго б з’есці шукае.



21. Ліса і воўк за ім ганяюцца,
А ён пад кустом дрыжыць, хаваецца.



22. Лясная жыхарка -
Рыжая краса,
Даўгахвостая …



23. Тры браты па чарзе прыходзяць,
Не грэюць, а марозяць.

**Загадкі загадалі:**

1. **Шалянкоў Іван**
**2, 3. Музыкантаў Яўген**
**4. Гесць Юра**
**5. Шукан Яўгенія**
**6, 7. Курунту Аліна**
**8. Гаспадарык Валерыя**
**9. Гайдук Надзя**
**10. Чарнаускас Арцём**
**11. Комар Сцяпан**
**12. Каламеец Валерыя**
**13. Хоміч Алена**
**14. Клімковіч Лізавета**
**15. Карачун Іван**
**16. Юрчанка Паліна**
**17- 22. Панкавец Ксенія**
**23. Лыскавец Аліна**

# Крыжаванкі

## ад Панкавец Ксеніі

## І. Школьныя прылады




1. У школе на ёй пішуць
2. Ім малююць
3. Ім клеюць
4. Ёй мераюць
5. Па ім вучацца
6. З іх складаецца слова
7. Ёй сціраюць памылкі



## II. Перакладзіце словы на беларускую мову



### Па гарызанталі:

1. Остров
2. Башня
4. Скатерть
5. Аист
7. Тыква
8. Октябрь
12. Вилка
14. Часы
16. Картофель
19. Огонёк
20. Крыша
22. Утка
23. Молния
25. Растение

### Па вертыкалі:

1. Деревня
2. Белка
3. Сентябрь
5. Сирень
6. Ноябрь
9. Пуговица
10. Утро
11. Глаз
12. Обложка
13. Отец
15. Басня
17. Ковёр
18. Мысль
21. Туча
24. Палка



**Пачатак зімы**

Нешта шэпча ліст апошні,
Ападаючы на дол.
Стары вецер заціхае.
Цішыня. Спакой.

Закружыўся ў белым вальсе
Самы першы снег.
І сама прырода раптам
Памяняць рашыла фарбы:
Жоўта-залацістыя -
На бела-серабрыстыя.

**Курунту Аліна**

**Зімовыя сны**

Над ракою, лесам, полем
Кружыцца мяцеліца,
Белай коўдрай атуляе,
Роўным слоем сцеліцца.
Каб у лютыя марозы,
У суровую гадзіну
Была добра ўкутана
Кожная травіна.
Каб жывёлы і расліны
Аж да самае вясны
Спалі і бачылі салодкія сны.



**Юрчанка Паліна**

## Зіма

Усё блішчыць як шкло,
Усё снегам замяло.
Людзі ганкі абмятаюць.
Дзеці зімку сустракаюць.
Колькі срэбра ў снягу!
А дастаць як? Не змагу
Звісаюць ледзяшы са стрэх,
Навокал чуць дзіцячы смех.
Зраблю на снезе матылька,
Яшчэ зляплю снегавіка.
На лыжах пакатаюся,
З сястрой паўсміхаюся.
Зімой залілі нам каток.
Завяжа мама мне платок,
І я пайду катацца,
З канькамі забаўляцца.
Хутка прыйдзе Новы год:
Ёлкі, падарункі.
Дзед Мароз падарыць мне
Люстэрка і карункі.



**Каламеец Валерыя**



## Зіма

На дварэ мароз лютуе,
А на шкле ўзор малюе.
Снег на сонцы зіхаціць,
Пад нагамі ён скрыпіць.

Каб не галадалі птушкі,
Зробім ім хутчэй кармушкі
І пасыплем хлеба крошкі:
Падмацуйцеся вы трошкі!

А мы пойдзем заўтра зранку,
Пакатаемся на санках.
Бо, хто бегае, развіцца,
Той марозу не баіцца.



**Гайдук Надзя**



**Дзіцячыя забавы**

Зіма ўсё наўкол прыбрала -
У белы колер пафарбавала.
Хмары ўсё ніжэй, цямней,
Хутка пойдзе снег.
А мы возьмем лыжы
Ды пачнём прабег.
А заўтра з самага ранку -
Катацца на санках!
У абед канькі абуваем,
Бо каток нас чакае.
Па лёдзе катаемся,
Валімся, усміхаемся.
Бегаем і весялімся,
Мы марозу не баімся!



**Панкавец Ксеня**



**Працаўніца - зіма**

Працаўніца-зіма
Ты шмат спраў зрабіла:
Закавала рэкі,
Нівы засняжыла,
Замяла сады і хаты.
Вельмі дзеці табе рады -
Можна ў снезе паваляцца
І на санках пакатацца.



**Гаспадарык Валерыя**

**Зімовы лес**

Мяце мяцеліца, абрусам белым сцеліцца.
Кружацца ў паветры лёгкія сняжынкі,
У павольным танцы, нібы балярынкі.
Вось ужо ў лесе не бачна слядоў,
Якія б расказалі пра жыццё звяроў.
Як імкліва зайка міма прабягаў,
Шэры воўк галодны яго даганяў.



**Комар Сцяпан**



**Снежная казка**

Ой, зіма, зіма, зіма,
Весялей цябе няма!
Тваe снежныя дары
Нашы лепшыя сябры!
Злепім мы са снегу дом,
Каб сабака жыў у ім,
А яшчэ з мяккага снега
Зробім бабу мы і дзеда,
А затым унучку следам,
Не сумуйце баба з дзедам!
Вось і вечар наступіў,
Нашу працу прыпыніў.
Заўтра мы прыйдзем зноў,
Злепім новых жыхароў.



**Клімковіч Ліза**



**Дзіўная пара**

Ах ты, зімачка-зіма,
Што за дзіўная пара!
Дрэвы голыя стаяць,
Дзеці забаўляюцца.
І сабачкі, і каты ў снягу валяюцца.
Птушкі просяцца ў дом,
Вельмі хочаць есці.
Збудавалі мы кармушкі,
Рады былі вельмі птушкі.
Дзеці выйшлі ўсе на горку
І катаюцца ўдагонку:
Хто на лыжах, хто на санках,
Хто на плёнках, на картонках.
Разам бегаюць сабакі,
Вельмі любяць яны дракі!
Тут узнялася завіруха,
Снегу наляцела!
Паімчымся мы дахаты,
Трэба грэцца нам, рабяты!



**Гесць Юрый**

**Дрымота**

Мяце завіруха,
Ціха падае снег.
І хвіліны зімою
Замаруджваюць бег.
Спіць рака пад ільдом,
Спіць у бярлогу мядзведзь,
І дзіця засынае,
Пачынае сапець…



**Карачун Іван**

**Зімовая пара**

Вось ужо завіруха
Запаволіла бег,
І пад ногі лажыцца,
Белай коўдраю снег.
Гэй! На горку катацца,
Пакуль ёсць яшчэ час!
Лыжы хутка імчацца,
Санкі з горкі ляцяць.
А як прыйдзе лета,
Мы па парэ гэтай
Будзем сумаваць.



**Зелянкевіч Іна**



# Змест